Уладзімір
Дзюба

# КРУГАЗВАРОТ

*Вершы*



«Мастацкая літаратура»
Мінск 1976

## КРУГАЗВАРОТ

Вясною —
Завязь,
Кветкі —
Летам,
А восенню —
Духмяны плод.
...Людскім каханнем,
Санным следам,
Стагодняй дзічкі
Першацветам
Паўторыцца кругазварот.

## НА ПАЛЕССІ — КАСТРЫ

На Палессі —
Кастры.
Паглядзіце,
Як многа іх свеціць
Каля Лельчыц,
Нароўлі,
Ля Жыткавіч
І Мазыра...
Так рабіны гараць,
Калі восень
Даўно на паверцы,
І так блікамі грае
На пушчах
І ў поймах
Зара.
А разводзілі ж іх
З сухадрэвін
І лісця сухога,
Калі птушкай
Кружыў
Над вяршынямі дрэў
Самалёт.
Пад шасі
Здрыганецца
Глухая
Лясная

Дарога,
І рассыплецца рэхам
Вінтоў перагрэтых акорд.
Потым з'явіцца трап.
Партызаны
Абступяць пілота.
Будзе святам
Прыбыўшы
З Вялікай зямлі
Пасланец.
Усміхнецца пілот:
— Ваша бачна здалёку работа —
Іскрамецяць кастры,
На зямлі
Пачынае ўжо днець.

2 Зак. 693

* * *

Святлее
Ў полі баразна,
Дымком
Прапахла даль без краю,
Прамень чырвоны
Выспявае
На перападзе ночы — дня.

## ГРЫНЯ

На балалайцы
На станцыі
Зноў іграе
Пра нешта
Грыня,
Я ж запомніў
Доўгія пальцы,
Мазолістыя
І настылыя.
Здрыгануцца
Тугія мускулы,
Пальцы
Мякка ўдарацъ
Па струнах,
Каб полька,
Хвацкая,
Беларуская,
З-пад пяцярні
Гайсанула.
Днём Грыня
Качае бочкі,
Днём Грыня
Грузчыкам робіць.
У Грыні рукі рабочыя,
Ён і музыка ад роду.
Абступілі яго паўкругам.
На станцыі —

Цесна і вузка.
Сыходзяцца людзі
Паслухаць
Усплёс крынічны
Грыневай
Музыкі.

## МАТРУНА

Ці вясна на двары,
Ці лютуе зіма,
Між вясковых удоў
Спакою няма.
Толькі ў хатах
Управяцца —
Разам збіраюцца.
І Матруна,
Сваячка мая,
Устае.
Як учора,
Гаворкі заводзіць свае:
— Гэта ж,—
Кажа,—
Прыйшоў да цябе не гасціць,—
Быць за жонку прасіць,
Дык ці згодна ж ёй быць?
А Матруне няёмка і —
Гэтак:
— Павер,
Я замужняя,
Чуеш,
Мой муж афіцэр.
На руках яго несла
З вайны,
З навальніц...
Прастагнаў мой саколік:

— Любая, піць...
Вось і п'ю
І гуляю,
Не сумная я.
Муж другі мне не трэба,
Другая сям'я.
І Матруна —
Дакор той вайне,
Устае —
Выдаваць ёй няёмка
Пакуты свае.

## МЫ Ў КАПЕРАЦЫЮ ІШЛІ

— У каперацыю пара.
Пайшлі,—
Казала мне бабуля.
І ў момант я знікаў з двара
І нёсся вуліцай,
Як куля.
Бацькі вярталіся з вайны.
І ўсцешна мне было,
Маломy,
Па сто кругоў рабіць
Ад дому
Да магазіннай мітусні.
Зраблю такі вось ладны круг
І да бабулі мчуся тут жа:
— Там шмат цукерак розных дужа,
Пячэнне там
У скрынях дзвюх...
А потым:
— Баб, а баб, хутчэй,
Спяшайся —
Сёння прадаецца
І хлеб,
І цукар,
І алей,
І...
Што не знаю, як завецца.

Бабуля слухала мяне
І набіралася пакупак:
— 3 кіло мне
Ўзважце
Грэцкіх крупак...
А то паркаль у вас, ці не?
А чайнік?
Колькі за яго?
Ага, нічога, мабыць, чайнік.
І з рыбкі мне таго-сяго...
А ўнуку дайце той вунь пернік.
Мы ў каперацыю ішлі...
Якая то была падзея!
Чаканая,
Нібы нядзеля —
Што будзе лепш таго калі?

* * *

Яшчэ імгненне —
І пупышкі
Лопнуць,
Падступіць
Гул зялёны
Да ракі.
І будзе сонца
Расцвітаць,
Як лотаць,
І песню завядуць
Палешукі.

## ЭХ, ГІТАРА...

Эх, гітара,
Штось сумна вельмі.
Раскажы лепш аб тым,
Калі
Бралі ў рукі дзяўчаты кельмы,
Падсобніцамі былі.
І сціраліся манікюры,
І дадому хацелася Валі,
Калі бачыла,
Як на Гур'еў
Параходзікі адплывалі.
Кажуць, слёзы свае раз-пораз,
На Урал прыбегшы,
Размазвала
І казала хлопцам:
— Сеньёры,
Пераплыць бы ў Еўропу ды з Азіі...
І развейваўся сум дзявочы,
І не верылася ніколі:
Валя-плакса раствор варочала,
Задавала тон на будоўлі.
Вечарамі ж любіла марыць,
Не дзяўчына —
Дзіцё зусім!
Засумую —
Вазьму гітару,
І раскажа яна аб усім.

## САГІБ

*С. Ермуханавай*

Над чабантоўкай поўня,
Як вышчыпаны сланечнік,
Ці, можа, ілюмінатар?
А побач
Гарчак-трава.
І толькі кранецца вуснаў
Зямлі патрэсканай вечар —
Ля поўні-ілюмінатара
Над стэпам — галава.
Веру,
Што зноў казашка
З сонечным іменем
Соня
Лёгка на дах узабралася,
Каб з-пад смуглявай рукі
Выгледзець,
Высачыць,
Крыкнуць:
— Гоняць,
Атару гоняць!
Засумавалі,
Пэўна,
Даўно без мяне бацькі.
Над чабантоўкай поўня,
Як вышчыпаны сланечнік,
Ці, можа, ілюмінатар?
Я радаваўся б,

Калі б
Нехта сказаў мне:
— Чуеш,
Чакае з хлопцам сустрэчы,
Лёс свой выглядвае Соня,
А па-казахску —
Сагіб.

## ПЕСНЯ ВЕТКАЎСКІХ ТКАЧЫХ

Ой, мой любы-каханы,
Каб другіх не займаў,
Дыванам
Шлях услалы,
Што саткала сама.
Ой, на той
На сцяжынцы
Недаверу няма,
Дзе хаджу я ў хусцінцы,
Што саткала сама.
У мяне ты —
Адзіны,
Дык зрабі ж яшчэ ўзмах —
Расхіні ўсе гардзіны,
Што саткала сама.
Я б цябе цалавала
Ад цямна да цямна
Вунь за тым пакрывалам,
Што саткала сама.
І каханне ўваскрэсне,
Не марудзь жа дарма.
І не кпі з маёй песні.
Песня тчэцца сама,
Песня тчэцца
Ад сэрца —
Песня тчэцца сама.

## ШВАЧКІ

*Маладым швачкам швейнага*
*вытворчага аб'яднання «Камінтэрн»*

Ах, вы,
Дзяўчаты,
Ці не вас
Шануе і за спрыт
І ўменне
Той кожны з нас,
Хто ў гэты час
Касцюм з іголачкі адзене?
Бо клопат ёсць у вас такі,
Ваш шчыры клопат
Паўсядзённы —
Каб выплывалі з-пад рукі
Касцюмаў розныя фасоны.
І шчыраваць вам зноў
І зноў
У свеце сонца
І вясёлак.
Вам апранаць
Мужоў,
Сыноў
І бачыць іх такіх вясёлых.
Народжаным пасля вайны,
Жадаю жыць я вам у шчасці!
Хай залацяцца вашы дні,
Равесніцы,
Сяброўкі,
Швачкі!

## ВЁСКА КУСНІ

Хаты, хаты...
Жыццё маруднае
Не наведвалася сюды.
Звон вядзёрны
Плыве над студнямі
І працэджваецца ў сады.
Вось дык назва Кусні!..
— Да мяне завярні! —
Гаспадар-дабрадзей
Запрашае гасцей.
Ходзяць мажна жанкі ваколіцай.
Паглядзіць з-пад лёгкай рукі
І адразу ўся запавольніцца —
Смех які!
Стан які!
Хмель які!
Раптам Янкава ці Язэпава
Дочак выведзе —
Б'ю чалом,
Калі меншая з іх
Гарэзліва
Памахае ўслед кулачком.
Вось дык вёска Кусні!
Ані колькі хлусні!
І жыву я ў Кусиях
Ва ўспамінах
І снах.

* * *

Ульяна Фёдараўна,
Наша настаўніца,
Нібыта цяпер гаворыць:
— Дзеці,
Ёсць яшчэ
Назоўнікі ніякага роду.
Гэта —
Сонца,
Паветра,
Поле...
Быў поўдзень —
Стаяла ў зеніце сонца.
Быў май —
І пахла мёдам паветра.
Быў мір —
І мяне пацягнула ў поле.
Поле!
А ты — чыё?
Поле,
Дык ты бязроднае,
Без роду,
Без племені...
Нічыё?
Належыш усім пароўну,
І ўсім нам
Цябе
Засяваць.

## МАЦНЕЙ, КРЫЛО!

Шпакі —
Глядзіце! —
Засяляюцца.
Шпакоўні —
Іх найлепшы дом,
Дзе наваселлі пачынаюцца
Спрадвечнай бойкай з вераб'ём.
Стаіць шпачыны свіст над сёламі,
Які не ўгледзіш з-пад рукі.
— Мы не збіраемся быць кволымі,—
Перасміхаюцца шпакі.
Ну, што сказаць вам,
Перасмешнікі?
І чым вас шчыра надзяліць?
Няхай шпакоўні поўняць песенькі,
Каб ведалі,
Вам добра жыць!
Вы —
Не арлы
І вы —
Не вораны.
І ваша —
Мірнае жыллё.
Ды кліча вас
Прастор азораны —
Мацней,
Шпачынае крыло!

* * *

О, прадчуванне небяспекі!
Асокаў вострыя нажы
Навытыркалі грозна рэкі,
І кожны з тых нажоў дрыжыць...

## ПЕСЕНЬКА БОМАЎ

— Бом,
Бом,
Бом...
Скачуць вочы пад ілбом,
Бо мы —
Бомы!
Зла ўсё ж шмат,
Што ні кажы.
Вось і гонім
Грэх з душы,
Бо мы —
Бомы!
Але стаў няўмольны свет,
Наш прапаў аўтарытэт,
Бо мы —
Бомы!
Толькі клопат тут такі:
Звон чуваць наш
Праз вякі,
Бо мы —
Бомы!
Калі вораг лез з мячом,
Русь грымела:
— Бом,
Бом,
Бом!..
Бо мы —

Бомы!
Не царам
І не багам —
Шчыра служым,
Людзі,
Вам,
Бо мы —
Бомы!
І цяпер —
Трывожны час,
Нас не спісвайце ў запас,
Бо мы —
Бомы!

* * *

Асушылі балота
За сялом без мяне.
Узаралі балота,
Каб не бачыць і ў сне.
І пасеялі жыта,
І сказалі:
— Расці!
Радуй нас аксамітам
Між умшэлых мясцін.
Зразумеў:
Буду госцем,
На стале будзе хлеб
І гасціннасці хопіць,
Песні будуць,
Але
Не спалохаю качку
Між высокай травы.
І не будуць губляцца
Ў сіняве журавы.
Ды не будзе ў тым гора —
Казка прыйдзе ў пасцель.
То ж у ёй —
Не за морам! —
Дзеда зваў журавель
Да сябе,
У балота,
І дабром надзяліў,

І за хмары свабодна,
Цуд зрабіўшы,
Ўскрыліў.
Асакі пазалоту
Ён ужо не прымне.
Асушылі балота —
Сумна —
Радасна мне.

* * *

Пад гудзенне
Назойлівых восаў,
Пад шаптанне
Калматых дубоў
Я аднойчы прысню сваю восень
З поўным кошыкам
Белых грыбоў.

## ДЗЕД І РАЙ

Стаў збірацца дзед у рай,
Вось і кажа бабцы:
— Ты жыві,
Не памірай,
Мне ж чаго баяцца...
Я з табой у згодзе жыў,
Трэба і ў дарогу.
На царкоўныя крыжы
Памаліся богу.
Ну, бывай...
— Ах, любы мой,
Не кажы такога:
Як жа гэта
Мне,
Старой,
Без цябе,
Старога.
Ты, напэўна,
І не чуў —
Сцёпкава кабета
Разрадзілася —
Хлапчук!
Ці ж не шчасце гэта?
На радзіны звалі нас,
Не прыйсці —
Няёмка.
Паміраць не час,

Не час.
Дзе той рай?
Далёка!
Я нядаўна бачыў іх
І на наваселлі.
Не пазнаў было старых —
Так памаладзелі.
— Ты адно,
Суседзе,
Знай,—
Шамкаў дзед гасцінна,—
Тут,
На гэтым свеце,—
Рай,
Не жыццё —
Маліна!

4 Зак. 693

## ВЯСКОВАЯ ІДЫЛІЯ

Жыў Лявон з Лявоніхай
На тым баку сяла.
Лявон рабіў гармонікі,
Каб музыка была.
Лявоніха
З той музыкай
Не ўмела сумаваць:
Лявон,
Навек ёй суджаны,
Умеў-такі сыграць.
Ну, як тут не спяваць!
— На ўсю хату будзе звон.
Ты іграй,
Іграй, Лявон.
Ой, трохрадка новая,
Не скажу ні слова я.
— Злазь,
Лявоніха,
З пячы,
Скачы,
Лявоніха,
Скачы.
Каб здалёк было чуваць,
Як маснічыны рыпяць.
— Жыць нам добра толькі так:
Ногі ў скокі —
Гэткі смак!

Я ў цябе бядовая —
Не скажу ні слова я.
— Жонка,
Жонка,
Памаўчы —
Скачы,
Лявоніха,
Скачы —
Па траве,
Па мурагу
І нікому —
Ні гу-гу...

— Не скажу ні слова я...
Ідылія вясковая!
— Скачы,
Лявоніха,
Скачы...
Размова ж пойдзе вось аб чым.

Ад нас
Праз хаты дзве ці тры
Жылі два родныя браты,
Жылі ўкраінцы Гарцукі —
Ні з кім,
Ні з чым:
Халасцякі.
З іх кожны
Майстрам быў
Калёс.
Таму чуваць было ў нас
Скрозь
Стук тапароў
І звон пілы —
Браты увішныя былі.
І не злічыць было дзякоў

Каля няўмольных Гарцукоў.
Бяры любую на выбор,
Гармонік вёў сватоў у двор —
Таемны шэпт ляцеў да зор.

— Скажы,
Скажы ты мне,
Гарцук,
Што ў хаце —
Без жаночых рук?
Ні міскі чыстае тае,
Ані скацінаечкі ў двары.
Тут нават певень не пяе —
Бяры Аўдолю ў дом,
Бяры.
— А я сам,
А я сам
Сабе міску падам.
Навару
І нагатую
Толькі сам.
Не, сябе ні за каго я
Не аддам.
— Скажы,
Скажы ты мне, Гарцук,
Што ў хаце —
Без жаночых рук?
Ані спагады,
Ні любві,
Ані харошага слаўца.
Нібы куркуль які жыві —
Бяры ж Наталлю з Хутарца.
— А я сам,
А я сам
Спагадацьму сабе,
Не скажу благога слова

Толькі сам.
Не, сябе ні за каго я
Не аддам.
— Скажы,
Скажы ты мне,
Гарцук,
Што ў хаце —
Без жаночых рук?
Ні дзетак,
За той мак драбней,
Ні тых унукаў,
Ні зяцёў.
Бяры Аўгінню —
Сінь вачэй,
Красуйся з ёй
І будзь здароў!
— А я сам,
А я сам
Падзяцініцца рад.
Быў унукам шчэ нядаўна
Толькі сам.
Не, сябе ні за каго я
Не аддам!
— Скажы,
Скажы ты мне,
Гарцук...
А ён ад музыкі аглух.
А я сам,
А я сам —
Стала прыказкай людзям.

А яшчэ ў нас жыў Ляўшун,
Малдаванін-весялун.
Левай бочкі ён рабіў,
А дабротныя ж —
Наўздзіў!

Быццам вулей,
Гуў базар,
Як вывозіў свой тавар
Пад засол ды пад расол —
Для патрэб наўкольных сёл:
Без вяселляў,
Без радзін
Не мінаў год ні адзін.
Грэць на іх Лявон быў рад,
Быў Гарцук там званы сват,
Меў Ляўшун свой лад і склад:

— Людзі добрыя,
Гуляйце,
Весяліцеся,
Спявайце.
Зычу шчасця
Маладым
І, вядома ж,
Што усім.
Жыць у ладзе вам
І міры,
Бо скажу такое шчыра:
Бочку я зрабіў адну,
Што не ведае цану,
То ж у ёй
Між донняў двух
Мной заціснуты
Злы дух,
Назаўсёды,
На вякі —
Дык піруйце ж,
Землякі.

То ж было у нас сяло!
Людзьмі рознымі гуло.

Толькі грымнула вайна,
І не стала ў бочцы
Дна —
Аднаго,
Другога...
Рай для духа злога.
Гарцука спытаў Гарцук:
— Чуеш стук,
Прыкладаў стук?..

Скачы,
Лявоніха,
Скачы!..
Размова ж пойдзе
Вось аб чым:
З'яднаў той лёс суровы
Нашчадкаў Гарцуковых,
Унукаў Леўшуновых.
Жывуць майстры скрозь
Новыя...
А пра бяду —
Ні слова я.

## ЖНІВО

Вітаю гулкае жніво,
Калі звініць даспелы колас,
Калі чуваць мне бацькаў голас:
— Па трыццаць возьмем...
Жыта — во!..
І коўдру скідвае з мяне:
Пайшлі у поле —
Пагаворым.
Яно цяпер
У ззянні зорным.
Такое ў сэрца нахлыне!
О бацькаў радасны настрой!
Ці могуць быць
Граніцы,
Межы?
Мой бацька
Сёння
Самы першы
Адчуў паэзію душой.
Паэзію жніва
І працы,
Калі карціць,
Ах, як карціць
Камбайн
На ўзлеску дзесь спыніць,
Са збажынаю прывітацца.
Зярнятка кінуць на далонь,

Адчуць вагу яго
І веліч
І прагу жыць.
З ім,
Вечным,
Зверыць,
Душы сваёй
Парыў,
Агонь.
Не,
Аніводзін каласок
Мы на палетках не пакінем,
І на такі
Пральецца
Ліўнем —
Які выток!
Які паток! —
Дзён нашых светлых ураджай —
Плён радаснай,
Заўсёднай працы!
...Баюся я адстаць ад бацькі:
Зара ружовіць небакрай.

* * *

Восень.
Лісце.
І ты —
Са мною.
Ты бярэш за руку мяне.
Спавівае зямлю сівізною
Першы,
Рана выпаўшы снег.
Лета бабіна
Тчэ валокны,
Высцілаючы
Даляў сінь,
Над якімі рэха
Галёкне,
Каб суцішыцца
Назусім.
— Любы-ы-ы...
Любы-ы!..
— Я тут...
А ў небе
Белых воблакаў
Чарада.
Абнімі мяне,
Любая,
Лепей,
Абплыві,
Як востраў вада.

Разам пойдзем
Па росах,
Па долах.
Хай гучыць
Пералівісты смех!
Хай пабачаць нас,
Смелых,
Вясёлых —
Ці то боль,
Ці то радасць,
Ці снег.

## МОЙ ГОРАД

Як толькі вэлюм вечаровы
Сплывае з воблакаў-пярын,
І горад твой,
Шматпавярховы,
Заззяе люстрамі вітрын;
Калі зусім,
Калі навокал
Няма,
Здаецца,
Ні душы,
А толькі безліч
Цёмных
Вокан —
Ты ўніз па лесвіцы
Збяжы...
Убачыш многа ты,
Убачыш шмат:
Каля заводскай прахадной
Рабят.
Рабочыя,
Яны —
Як волаты
Міжзорнай
Цішыні.
Мантажнікі —
Яны,
І токары —

Яны,
І слесары —
Яны,
Як волаты
Міжзорнай цішыні.
Убачыш многа ты,
Убачыш шмат:
Вунь свеціцца
Студэнцкі
Інтэрнат.
Гудзе,
Як вулей,
Ён —
І верыцца
Ў вялікі
Творчы плён.
Геолаг гоніць сон,
І фізік гоніць сон,
І лірык гоніць сон —
І верыцца
Ў вялікі
Творчы плён.
Убачыш многа ты,
Убачыш шмат
Няўрымслівых,
Гарэзлівых
Дзяўчат,
Акрыленых,
Якім
Вось гэты вечаровы час —
Як гімн!
Любімым нашым —
Ім!
І закаханым —
Ім!
І модніцам,

Дапытлівым
Такім,
Вось гэты вечаровы час,
Як гімн,
Калі зусім,
Калі навокал
Няма,
Здаецца,
Ні душы,
І зарапады
Ў зрэнках
Вокан...
...Ты ў зорны горад мой
Збяжы!

## ВІРА

Там,
Дзе Сож ля партовых кранаў
Ціха светлыя воды нясе,
Я надзеяй сябе не падманваў,
Што схмялею ў чарнявай касе.
Што яна
Мне насустрач
Выйдзе —
Прыгажуня,
Сама,
Мой лёс.
І ўсміхнецца:
«А лодка ўнізе.
Як бы Сож нам яе не знёс...»
Я наіўна сябе падманваў:
Там,
Дзе вір,
Там,
Дзе той мысок,
Ля разлапістых
Вежавых
Кранаў
«Майна!»
«Віра!» —
Пачую здалёк.
З самых розных імён дзявочых
Шчыра

Віра
З вероў
Вірне.
І за постацямі рабочых
Выглядаць я пачну яе.
Дзівавацъ,
Як сплывае ранак
З плошчаў горада
Ў свет надзей...
Высвятляючы гамяльчанак —
Іх рабочы
І кожны дзень.

## КРЫЛЫ

*Журналіст:*
Ён не пайшоў яшчэ на злом,
І сёння
Ўзбоч шашы Прудкоўскай
Мы ўбачым гэты іпадром...
*Эксперт:*
А Зульфія была ўсё ж дзёрзкай?
*Журналіст:*
Яшчэ б!
Не можа быць інакш...

* * *

...Будзіўся ранкам горад наш.
Звінеў людскімі галасамі.
Гляджу —
Па вуліцы ідзе
Жанчына
З сумкамі,
Вузламі —
Па промнях,
Ценях
І вадзе...
«Ах, як ёй цяжка, як ёй цяжка!»
Спяшаюся наперарэз:
— Дапамагчы мо?
— Калі ласка!

Усё ж пакланжы будзе менш.
Сумеўся тут жа,
Засмуціўся:
Жанчына —
Год пад дваццаць пяць.
А што за твар,
Якія рысы!
І не тутэйшая,
Відаць...
І рад дапамагчы,
І словы
Застылі у маіх грудзях...
— Я вось...
Прабачце...
Я гатовы...
— Ну й кавалер!..
Гатоў...
Ах, ах...
І вось нясу вузлы цяжкія.
Шчаслівы,
Крочу побач з ёй.
— А мне да Хойнік...
Дзе такія?
А клічуць,
Зрэшты,
Зульфіёй...
О, тыя дзіўныя хвіліны!
І зноў яна гаворыць мне:
— Няўжо такія ўсе мужчыны?
Усё ў іх так,
Як на вайне...
Усё ў іх часу
Не хапае.
Вось з мужам ехала —
І што ж...
Палкоўнік —

Тут як тут,
Спыняе
І кажа,
Верыце,
Ўсур'ёз:
— Таварыш лейтэнант,
Прабачце.
Вы з жонкай?
Што ж цяпер рабіць?
Абставіны.
У нас,
У часці,
Чакаюць вас.
Загад —
Прыбыць.
Мой муж,
Як бачыце,
Паехаў,
Мяне пакінуўшы адну.
Гульня ўся гэта
Варта смеху,
Гульня ў трывогі
І вайну.
Як надакучыла,
Ну й опус,—
Скрывіла губкі Зульфія,—
Спяшаюся вось на аўтобус,
Пры чым тут я,
Пры чым тут я?..

* * *

У Гомель ехалі з Масквы.
Ужо вясна цвіла чаромхай.
Іван,
Схіліўшыся над жонкай,

Заўважыць праблiск сiвiзны.
Ён разумеў:
Нялёгка ёй
Прывыкнуць будзе да Палесся,
Дзе лес —
Ажно да паднябесся,
З яго птушынай гаманой.
Дзе лес i лес...
Згадаў Іван
Сваiх бацькоў
I вёску Лотацць.
У матчыну там хату
Ўвойдуць:
— Дзень добры,
Бацька,
Добры,
Мам!
А гэта —
Жонка,
Зульфiя.
Узбечка,
З-пад Ташкента родам...
I вёска ўся збярэцца потым:
— Дык Зульфiя?
Яна — твая?!
А бацька —
Шчыры чалавек —
Нявестку сам
За стол
Пасадзiць:
— У час вайны
Адзiн узбек
Са мной
Служыў.
I дай бог памяць
Яго прыпамятаць цяпер...

Ах, бацька,
Бацька,
Ён заўсёды
Згадае розныя прыгоды,
Калі патрэбна —
Толькі вер.
Чаму?
Ды мо хацяб таму,
Каб чым развеяць одум маці.
А маці ўсходзіцца:
— Сядайце!..
Дай на нявестку хоць зірну.
Узбечка,
Кажаш,
Зульфія,
Аж з-пад Ташкента?
Дык здалёку.
Сын,
Добрую знайшоў ты жонку.
Калі —
Твая,
Яна й — мая...
...І колы грукалі на стыках...
Сок
Узнімаўся па ялінках...
Жыццём
Будзілася
Зямля.



Між тым,
Як сэрца саграва ла
Сустрэча з блізкаю раднёй,
Імчаў у Гомель,
Да вакзала,

Фургон дарогаю лясной.
Сержант,
Які круціў баранку,
Даводзіў сам сабе штораз:
— Вось толькі прамінём альтанку,
А там — шаша,
Не страшна гразь.
Палкоўнік,
Што сядзеў з ім побач,
Усё ж прыкметна нерваваў:
— А паўгадзіны нам ці хопіць
Прыбыць да месца?
Будзе спраў...
Упусцім Ломача і —
Толку:
Спаткае лейтэнант сваіх,
Вядома ж,
Забярэцца ў вёску.
Шукай яго
У пушчах тых.
Сябе ж лавіў на слове тут жа:
«Пабыць і дома не дадзім.
Хаця —
Што зробіш:
Служба — служба,
Ты не вальготная зусім.
Імчы,
Фургон,
Імчы,
Спяшайся
І на выбоінах лясных
Люляй
Людзей ваенных шчасце
У штодзённых клопатах зямных.
Яно —
Трывожнае,

Цяжкое,
Свой
У яго
Аэрадром.
Яно —
Нібыта тая хвоя,
Што пранясецца пад крылом.
Адчуе перагрузкі
Сэрца,
Змахнеш салёны пот
З вачэй.
Знішчальнік куляй пранясецца,
І будзеш жыць —
Хутчэй,
Хутчэй!

* * *

Зульфія у чаканні мужа:
Яму ж —
Дваццаць восем год.
Не застудзі яго,
Сцюжа,
Не падвядзі,
Самалёт!
Мінайце,
Трывожныя суткі!
Вяртайся хутчэй,
Іван...
Вось крокі яго
І гукі
На лесвічным маршы.
Стань,
Мінута сустрэчы,
Доўгай,
Івана не адпусці,

Не разбудзі трывогай.
Ён —
Сонца ў яе жыцці.
Убок —
І кнігі,
І сшыткі:
— Мой любы,
Мой дарагі!..
А ён —
Бялявы, вялікі:
— Зульфія мая,
Зульфі...

* * *

О дзень,
Калі сям'я ўся разам
І столькі неадкладных спраў!
Як хочам мы,
Каб гэткім часам
Нас лёс усё часцей збіраў.
І радаваўся я,
Няйначай,
Калі ў разгары выхадных
Званіў Іван мне:
— Слухай,
З Надзяй
Імчы да нас,
Бо без тваіх
Прагнозаў
Зноў не абысціся:
На гонкі Зульфія вядзе.
Дык адпачыць і нам карысна,
І жонка,
Чуеш,
Падрасце...

І так здаралася нярэдка:
Білеты хуценька бяром —
Трыбуны,
Гул людскі.
Я — сведка:
Тут — Зульфія,
Тут —
Іпадром.

* * *

І старт.
І першыя метры.
І лабірынт перашкод.
І рух,
Зусім не прыкметны.
І лёгкі
Імклівы ход.
Ляціць Зульфія —
Глядзіце!
Фея,
Багіня язды!
І сонца
Ў самым зеніце,
Гарачы твар малады.
Імчыць Зульфія.
Царэўна!
Таго не забыць ніяк:
У нейкае там імгненне
Ўзвіваецца птушкай рысак.
З якой ты,
Наезнік,
Дарогі?
Мне крыўдна,
Што я дамасед...
...І нечакана трохі:

— Іван,
Паеду ў Ташкент.
Пабачу бацькоў і блізкіх...
Адпусціш мяне — скажы?
У школе ж канікулы.
Кніжкі,
Сшыткі,
Карандашы
Настаўніцу пачакаюць.
А потым будзе зіма.
Куды ўжо ў белую замець?
Калі там будзе вясна?

* * *

*Эксперт:*
Зульфія ў стэпе
На рысаку тады была,
Калі адчула недзе ў небе
Звон перабітага крыла.
Калі ў Івана
Над Ташкентам
Не слухацца знішчальнік стаў,
Зямляк ваш ранкам
Ціхім, светлым
У стэп цягнуў,
У одум траў.
І выканаў ён звышзадачу...

*Журналіст:*
А Зульфія?
Яе я ўбачу?

*Эксперт:*
К Івану мчалася штосілы.
І абнялі адны іх крылы.

## ЗМЕСТ

**Дзюба У.**

**Д 43** Кругазварот. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1976. 56 с.

«Кругазварот» — другі зборнік вершаў Уладзіміра Дзюбы. Аўтар вядзе шчырую задушэўную размову са сваімі сучаснікамі, паказвае іх людзьмі мужнымі, улюбёнымі ў жыццё і свой родны край.

Д $\frac{70403\text{-}012}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 39-76 **Бел 2**

На белорусском языке

Владимир Иванович Дюба

КРУГОВОРОТ

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак Ю. І. Чувашэў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар В. В. Шарамета.

АТ 09707. Здадзена ў набор 18/VIII 1975 г. Падп. да друку 11/XII 1975 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,25. Ул.-выд. арк. 1,9. Зак. 693. Цана 19 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.